# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 25 (53) 4—10 жніўня 1993 г. Цана 5 рублёў

**476 ГАДОЎ НАЗАД, 6 ЖНІЎНЯ 1517, У ЧЭШСКАЙ ПРАЗЕ ФРАНЦЫСК СКАРЫНА ВЫДАЎ ПЕРШУЮ БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ. СА СВЯТАМ НАЦЫЯЛЬНАГА ДРУКУ!**







25 сакавіка і 27 ліпеня. Так распарадзіўся лёс, што Беларусь мае два святы незалежнасці. І пакуль ідуць спрэчкі, якое з іх важней, беларусы адзначаюць абодва. Адно—сціпла, без гучных фанфараў. Затое шчыра, сардэчна—па-беларуску. Другое—з размахам, з кірмашамі, з народнымі гуляннямі. Таксама трэба.

Жыве Беларусь!

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

**На фота А. Лакоткі:** свята супала са «Славянскім базарам», з чарговаю гадавінаю горада. На кані легендарная заснавальніца Віцебска княгіня Вольга (злева). На кірмашы (у цэнтры). Якое свята без музыкі?

## У ГАЗЕЦЕ:



## Аб выніках XII сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ адзначае, што вынікі XII Сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз пацвердзілі вывад аб тым, што ўлада ў краіне належыць блоку камуністычна-наменклатурных сіл.**

**Выканкам канстатуе, што ва ўмовах катастрафічнага стану эканомікі, які ў хуткім часе можа прывесці да сацыяльнага выбуху, імкненне кіруючых колаў да ўвядзення дыктатуры відавочнае. Парламенцкая большасць нават учыніла спробу надаць гэтай уладзе абсалютны характар. Але падпарадкаваць КДБ Саўміну і замяніць С. Шушкевіча на стаўленіка камуністаў не ўдалося—дыктатура не ажыццявілася.**

**Лічым, што настаў час, каб сп. Шушкевіч заняў больш акрэсленую пазіцыю ў адносінах да шырокага дэмакратычнага руху. Бо як паказала тая ж, сесія, менавіта дзякуючы намаганням дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі, у тым ліку і фракцыі Грамады, прыняты, нарэшце, законы аб імянных прыватызацыйных чэках, аб уласнасці на зямлю, экалогіі ды інш.**

**Беларускія сацыял-дэмакраты лічаць, што імкненне камуністычна-наменклатурных сіл да абсалютнай улады (пра што сведчаць апошнія структурныя змены ва ўрадзе) робяць надзвычай актуальнай праблему каардынацыі намаганняў усіх дэмакратычных партый, рухаў і прафсаюзаў. Грунтам для супрацоўніцтва могуць быць рэзалюцыі III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі «Аб унутрыпалітычным становішчы Беларусі» і «Аб дзяржаўна-канстытуцыйным ладзе Рэспублікі Беларусь».**

**Грамада падзяляе, пазіцыю Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі аб неабходнасці правядзення датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь не пазней, як у сакавіку 1994 года.**

**Выканкам ЦР БСДГ заклікае сяброў і прыхільнікаў Грамады далучыцца да збору подпісаў, які арганізуе ФПБ, аб прызначэнні датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ.**

## Не вычарпана памяці крыніца...

Жнівеньскім днём 1824 года праз старажытны Віцебск пралягла дарога Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Назаўсёды застаўся на нашай зямлі яго яркі след.

Вуліца Пушкіна (з 1899 г.). Пушкінскі мост (з 1974 г.). Пушкінскі памятны знак (адкрыты ў 1989 г.).

І як не ўспомніць словы вялікага паэта, якія быццам бы звернуты да нас: «Павага да мінулага—вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікунства...».

У Пушкінскім кутку горада, у месцы, дзе зліваюцца Віцьба з Дзвіною, ужо ў пяты раз пройдзе Пушкінскае свята.

І ў часіну цяжкае пары не вычарпана памяці крыніца... Вы прыходзьце к Пушкіну, сябры, вечнай прыгажосці пакланіцца! Бярыце з сабою вершы, песні, кветкі!

Аляксандр Сяргеевіч чакае нас і прызначыў сустрэчу 6 жніўня ў 18 гадзін.

**Давід СІМАНОВІЧ,**
**старшыня Пушкінскага камітэта.**

## Тэхнікум сувязі з камерцыяй

У грамадскую камісію па кантролю за раскрадальніцкай дзейнасцю дзяржапарату паступілі наступныя звесткі аб камерцыйнай дзейнасці ў Віцебскім тэхнікуме сувязі.

У лістападзе 1990 года пры тэхнікуме з мэтай забеспячэння работай навучэнцаў, а таксама выкладчыкаў, у якіх невялікая нагрузка, створана малое прадпрыемства «Этап». Але на самой справе МП займалася толькі камерцыяй. Тэхнікум выдзеліў памяшканне для магазіна «Галінка», што належыць згаданаму МП.

Па ініцыятыве дырэктара значная плошча інтэрната № 2 навучальнай установы эксплуатавалася як гасцініца МП «Этап». Фінансавыя разлікі і даходы ад паслуг гасцініцы педкалектыву невядомы. З гэтае нагоды калектыў скардзіўся ў міністэрства сувязі. У выніку дырэктару тэхнікума аб'яўлена вымова.

Некаторыя асобы, якія ўдзельнічалі ў здзелках з інтэрнатам і магазінам «Галінка», цяпер будуюць ля вёскі Тулава катэджы. А ці маюць яны патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў?

Між іншым, у падвалах сталоўкі захоўваюцца будматэрыялы—усяго на суму некалькі мільёнаў рублёў. Ці не для гэтых забудоўшчыкаў?

Грамадская камісія звяртаецца з просьбай да інспекцыі Кантрольнай палаты праверыць дадзеныя факты.

*Ліст чытача*

## Паважаны рэдактар «Выбара»!

Вельмі шкадую, што не ведаю Вас у твар. А то сустрэў бы дзе-небудзь і аддубасіў бы ад усёй душы. І не панёс бы за гэтае ніякага пакарання. Праўда, для гэтага трэба выканаць адну невялічкую ўмову—не узяць грошай у ахвяры, не адабраць гадзіннік і не забраць дакументы. Такая ўмова міліцыі. Растлумачу на ўласным прыкладзе.

7 чэрвеня 1993 года, каля 19 гадзін, два нягоднікі пабілі мяне і скінулі па адхону непадалёк ад фантана па вул. Леніна. Дзяжурны афіцэр міліцыі (вул. Крылова) найперш запытаўся, што ў мяне забралі. Грошы, гадзіннік і дакументы былі на месцы. Нічога ў мяне не ўзялі. «Тады топайце»,—сказаў міліцыянер. Прыйшоўшы дадому, я выклікаў хуткую дапамогу. У выніку—15 дзён у І хірургіі 3-й гарбальніцы і ў наступным—аперацыя на пячонцы, па меркаванню лекара.

Нягоднікі, што пабілі мяне, гуляюць беспакарана. У дзяжурнага афіцэра міліцыі здарэнняў не было. Ва ўсіх усё добра. Я ж застаўся са сваімі сінякамі і балячкамі.

Цяпер, спадзяюся, міліцэйская логіка Вам зразумелая. Глядзіце пачатак пісьма.

**А. ЯКУШАЎ,**
**г. Віцебск.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** У выніку расследавання, праведзенага карэспандэнтам «Выбара», высвятлілася наступнае. Сапраўды, 7 чэрвеня аўтар пісьма быў дастаўлены хуткай дапамогай у 3-ю гарбальніцу з дыягназам «шматлікія выцятыя месцы галавы, грудзей, жывата». Сапраўды, ён прабыў там 2 тыдні. У Кастрычніцкім РАУС абвінавачанні ў свой адрас адверглі. І ў сваю чаргу абвінавацілі ва ўсім А. Якушава. Маўляў, пабілі яго 4-га, а хуткую дапамогу ён выклікаў сёмага. І наогул, ніхто яго не біў, а ён сам п'яны зваліўся «з вышыні ўласнага росту» (цытата з афіцыйнага адказа, які райаддзел даслаў рэдакцыі). Сведкам выступіў той самы дзяжурны афіцэр, на якога скардзіцца наш чытач.

Не ўдалося высветліць, ці было абавязковае паведамленне з бальніцы ў міліцыю аб факце збівання. Галоўны ўрач гарбальніцый настойвае, што такое паведамленне было зроблена. У Кастрычніцкім РАУС не менш рашуча заяўляюць, што яно ў іх не зарэгістравана.

Складваецца ўражанне, што, імкнучыся захаваць чысціню мундзіра, некаторыя супрацоўнікі міліцыі гатовы абвінаваціць каго заўгодна, толькі каб не прызнаваць уласныя памылкі. Што ж, «віцебская справа» (пра якую сёй-той ужо вельмі трывала забыўся) даказала, што нашыя праваахоўныя органы могуць віртуозна выходзіць з самага складанага становішча.

Прозвішча аўтара ліста зменена па этычных меркаваннях.

## Адным радком

Прыемная навіна для сяброў і прыхільнікаў БСДГ. Выйшла брашура «Статут Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады».

 



# Выйсце з паліўна-энергетычнага крызісу і замацаванне дзяржаўнай незалежнасці

**У мінулым нумары штотыднёвік змясціў Заяву прадстаўнікоў партый і рухаў Беларусі, Латвіі, Летувы й Украіны, прынятую на міжнароднай канферэнцыі краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна «Шляхі перaадолення паліўна-энергетычнага крызісу». Зараз мы друкуем некаторыя іншыя матэрыялы канферэнцыі.**

## Зянон Пазьняк

Паважаныя панове!

Нашая канферэнцыя мае практычны характар и вызначана канкрэтнымі й даволі вузкімі задачамі—разглядзець агульныя праблемы выйсця з паліўна-энергетычнага крызісу шляхам стварэння балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара. Ёсць падставы меркаваць, што ажыццяўленне такой задачы было б эканамічна выгадна ўсім краінам Усходняе Еўропы, выклікала б развіццё раўнапраўных партнёрскіх адносінаў між дзяржавамі. Стан, у якім апынуліся краіны Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна пасля распаду СССР, нельга назваць нармальным ні ў эканамічных, ні ў палітычных адносінах. У Савецкім Саюзе імперская палітыка прэваліравала над эканомікай. Гаспадарчыя інтарэсы рэспублік не ўлічваліся. Існавала строгая цэнтралізацыя, стваралася адзінае імперскае ваенна-індустрыяльнае гаспадарства. Пасля яго распаду, перабудовы і вызвалення былых рэспублікаў, бадай, галоўнай эканамічнай праблемай для краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна стала пытанне паліўна-энергетычнага забеспячэння. Праблема створана для нас у значнай ступені штучна й абумоўлена манапольным становішчам Расіі на нафтавым рынку Усходняй Еўропы. Для нашых гаспадарстваў аднолькава востра паўстала пытанне стварэння другіх і трэціх крыніцаў забеспячэння нафтаю. Праблема не набыла б такія драматычныя формы, калі б наш усходні сусед не выкарыстоўваў сваю часовую перавагу ў палітычных мэтах, галоўны сэнс каторых—стварэнне жорсткай эканамічнай і палітычнай залежнасці нашых дзяржаваў ад Расіі, забеспячэнне дамінуючага становішча Расіі ва Усходняй Еўропе ажно да падаўлення суверэнітэту ўсходнееўрапейскіх гаспадарстваў, як вынікае з дзеянняў найбольш шавіністычных расійскіх дзеячоў ды групаў.

Другая прычына вастрыні пытання—нерашучая й непрадуманая эканамічная палітыка ўсходнееўрапейскіх дзяржаў. Што тычыцца Беларусі, напрыклад, і ў значнай ступені Украіны,—то палітыка іх кіраўніцтва скіраваная, па сутнасці, на захаванне адміністратыўнай эканомікі з наданнем прыватна-камерцыйнай ролі дзяржаўным адміністратарам. Гэтыя людзі працягваюць існаваць і кіравацца адміністратыўнай залежнасцю і не схільныя да кардынальнага змянення становішча.

Тым не менш, аб'ектыўна, як бачым, ва ўсіх краінах Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна Усходняе Еўропы існуюць аднолькавыя праблемы з Усходам і аналагічныя задачы на Захадзе.

У гэтай сітуацыі неабходна каардынацыя намаганняў па гаспадарчых і, асабліва, паліўна-энергетычных пытаннях усіх краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна і выклікае здзіўленне, што яе дагэтуль няма. Эканамічная выгода такой каардынацыі безумоўная. Вырашэнне пытання паліўна-энергетычнага забеспячэння, хаця б частковае, палепшыла б сітуацыю ў вытворчасці, у сацыяльна-псіхалагічнай сферы, садзейнічала б умацаванню нацыянальных валют, зніжэнню інфляцыі, а ў канчатковым выніку, мацавала б незалежнасць нашых гаспадарстваў.

Узгадненне эканамічнай і паліўна-энергетычнай палітыкі балта-чарнаморскіх краінаў мае, на мой погляд, добрыя стабілізуючыя перспектывы для ўсяго рэгіёна Усходняй Еўропы. Агульная аўтаномная сістэма забеспячэння і дастаўкі нафты можа ў корані змяніць становішча, дае магчымасць усім уздыхнуць вальней, перайсці ад стану выжывання да грунтоўнай пабудовы сваіх дзяржаў, паскорыць эканамічныя рэформы, знізіць палітычны націск з Усходу.

Гісторыя ўзаемадачыненняў нашых краінаў з Усходам дый аналіз становішча пераканаўча паказваюць, што якой бы ні была сістэма ўлады ў Расіі, якія б задачы яна не дэкларавала, там заўсёды будуць уплывовыя групы, што імкнуцца да экспансіі й падаўлення, да ўзняцення ролі палітыкі над эканомікай, да выкарыстання эканамічнага шантажу ў імперскіх інтарэсах. Палітыка гэтых групаў будзе вызначальнай і тым болей адкрытай, чым выдавочней будзе спакуса выкарыстаць нашую слабасць, раз'яднанасць і эканамічную безабароненасць. Сітуацыя паказвае, што супрацьстаяць паліўна-энергетычнаму шантажу не ў стане такая багатая і патэнцыяльна моцная дзяржава як Украіна. Пасля распаду СССР нашы краіны выпалі з геапалітычнай процівагі між Усходам і Захадам. Вырваўшыся з імперскіх межаў, кожная з нашых краін спяшаецца на Захад, імкнецца вярнуцца ў Еўропу, жадае набыцця новай стабільнасці ў сістэме новых узаемаадносін. Але Захад існуе ў іншай сістэме эканамічных каардынат. Нават такія дзяржавы як Польша, Чэхія, Славакія, Венгрыя пайшлі ўжо далёка наперад. Эканамічныя раўнапраўныя партнёрскія адносіны з імі па гэтай прычыне цяжкаватыя. У той жа час мы чуем за спінай цяжкае дыханне старой імперыі, каторая ўсё яшчэ трымае нас за рукі, спрабуючы вярнуць. Мы апынуліся быццам бы паміж Усходам і Захадам.

У гэткай сітуацыі найболей плённым рашэннем, на мой погляд, было б усведамленне агульнасці сваіх інтарэсаў, разуменне сваёй ролі як стабілізуючай процівагі між Усходам ды Захадам. Пра гэтае сведчыць уся нашая (дарэчы, у значнай частцы агульная) гісторыя і рэальнае становішча ў нашым рэгіёне Еўропы. Калі мы не станем рабіць крокі насустрач адзін аднаму і аб'ядноўваць намаганні, што скіраваныя на самазахаванне, мы пагоршым сваё становішча. Калі, напрыклад, у Беларусі з-за штучна створаных варункаў адбудзецца эканамічны абвал і нашая краіна згубіць частку свайго суверэнітэту, вынікам гэтага будзе ўтварэнне тут расійскага стратэгічнага плацдарма. Няўжо не зразумела, што сітуацыя створыць непасрэдную пагрозу націска на Украіну. Ці будуць спакойна на гэтае глядзець Польшча, Латвія, Летува? Я прапаноўваю рэальна ўявіць і ацаніць такую перспектыву, бо гэта не абстрактнае меркаванне. З Усходу робяцца рэальныя крокі антыдэмакратычных праімперскіх сілаў, каб рэалізаваць свае задумы.

Зрэшты, узаемаадносіны ў геапалітыцы маюць свае законамернасці. Уявім, што ў Расіі няма ніякіх шавіністычных, пракамуністычных і праімперскіх сілаў, якія ўплываюць на палітыку. Уявім, што там цывілізаваны ўрад. Аднак тэрыторыя, колькасць насельніцтва, эканамічны патэнцыял Расіі настолькі вялікія, што ні адно сумежнае гаспадарства на ўсходзе Еўропы не можа складаць ёй процівагі. Нават Украіна. Тутака няма баланса сілаў і ўзнікаюць варункі для безагаворачнага палітычнага дамінавання Расіі. Каб захаваць стабільнасць і незалежную палітыку, неабходна стварыць гэты баланс сілаў так, як гэтае рабілася ў Еўропе—шляхам эканамічнай, гандлёвай, тэхналагічнай, энергетычнай, экалагічнай каардынацыі і аб'яднання намаганняў на аснове кансенсуса для рэалізацыі і абароны сваіх нацыяльных інтарэсаў.

Скаардынаваная эканамічная палітыка краін Балтыйска-Чарнаморскага міжмор'я, асабліва ў галіне паліўнай энергетыкі, у стане нейтралізаваць нафтавы дыктат з Усходу. Тым болей варта ўлічыць, што здабыча нафты ў Расіі дэградзіруе, а рэсурсы на зыходзе. У перспектыве Расія сама змушаная будзе купляць нафту. У гэтым выпадку роля балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара стала б яшчэ больш значнай. Разгляд перспектывы паказвае, што краіны БЧР абавязкова павінны прыйсці да неабходнасці яго будаўніцтва. Пагэтаму, чым раней мы разглядзім гэтую магчымасць, чым хутчэй возьмемся за справу, тым лепей.

Ідэя эканамічнай каардынацыі гаспадарстваў Балтыйска-Чарнаморскага міжмор'я не новая. Яна ўзнікла ў пачатку стагоддзя ў асяроддзі беларускіх палітыкаў нацыянальна-адраджэнскага кірунку і ўпершыню прадэклараваная ў 1916 годзе на дэмакратычным з'ездзе ў Лазане. З 1989 года да думкі пра балтыйска-чарнаморскае супрацоўніцтва ў барацьбе за незалежнасць стаў вяртацца Беларускі Народны Фронт. Адбылося колькі міжнародных нарадаў і палітычных канферэнцыяў, якія, аднак, не пацягнулі рэальных дзеянняў. Нарэшце, само жыццё, развіццё паліўна-энергетычнага крызісу і мажлівыя ягоныя наследкі ў будучым паставілі пытанне аб'яднання намаганняў зусім канкрэтна. Неабходна скаардынаваная праца.

Эканамічная патрэба сумеснага выйсця з нафтавага крызісу не выключае, як мы ўбачым, супроцьдзеяння гэтай неабходнасці, прадыктаванага толькі палітычнымі інтарэсамі, альбо, дакладней, палітычным проціборствам. Пры гэтым шмат хто шчыра не разумее, што энергетычных перспектыў на Усходзе няма, а за тое, што шчэ ёсць, нас змушаюць расплочвацца ўласнай нацыянальнай перспектывай. Ідэю эканамічнага супрацоўніцтва і каардынацыі дзеянняў нашых краінаў у Беларусі з незразумелай, на першы погляд, агрэсіўнасцю не прымаюць усе палітычныя сілы камуністычнага накірунку і розныя праімперскія групы, якія выконваюць у існуючых умовах ролю пятае калоны і настроены супраць незалежнай беларускай дзяржавы. Гэтыя ж сілы займаюць найболей варожую пазіцыю і на Усходзе. Палітызаванае ўспрыманне малюе ім карціны краха Расіі, загаворы проціў рускіх, падкопы ЦРУ, НАТА, Інстытута Крыбла й іншых «капіталістаў».

Сутнасць гэтых паводзінаў ва ўсведамленні таго, што нашае сумеснае вырашэнне праблемы выйсця з паліўна-энергетычнага крызісу робіць нашую незалежнасць незваротнай. Нафта—галоўны рычаг уздзеяння імперскай палітыкі—перастае быць эфектыўным аргументам. Прыгадаем 1990 год, гарбачоўскую нафтавую блакаду незалежнай Летувы. Тады, у тых варунках, беларусы здолелі ціха ды тайна дапамагаць Летуве. Потым, калі самі разам з Украінаю адчулі на сябе націск з Усходу, дапамогі чакаць няма ад каго. Трэба ўсвядоміць, што дапамога ў нас саміх, у нашых агульных дзеяннях і рашэннях, у нашай салідарнасці, у нашым жаданні, урэшце, выйсці з крызісу разам, а не паасобна. Вырашэнне праблемы ляжыць на паверхні, варта толькі працягнуць руку дый узгадніць намаганні. Гэта чыста эканамічная і тэхналагічная задача. Яна патрабуе прадуманага, рашучага ды найхутчэйшага ажыццяўлення.

**Пераклад з рускай.**

---

**Міжнародная канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна «Шляхі выйсця з паліўна-энергетычнага крызісу»**

# Зварот да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Латвіі, Летувы й Украіны

Паліўна-энергетычны крызіс, які ўдарыў па краінах Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна (БЧР), прыняў такія маштабы, што стаў пагрозай для незалежнасці і цэласнасці гэтых гаспадарстваў.

Галоўныя прычыны крызісу былі закладзеныя ў нетрах каманднай, экстэнсіўнай эканомікі і каланіяльнай палітыкі былога СССР. Гэта аднабокая арыентацыя на пастаўкі, варварская эксплуатацыя натуральных багаццяў, у выніку чаго наступіла іхнае вычарпанне, дэфармаванае развіццё эканомікі рэгіёна без уліку сыравіннай базы, нацыянальных інтарэсаў і традыцыяў, тэхнічнае адставанне і нізкая эфектыўнасць выкарыстання паліва.

Канферэнцыя лічыць развіццё паліўна-энергетычнага комплекса, інжынерных камунікацый, якія забяспечваюць магчымасць пастаўкі нафты з розных крыніцаў, неабходнымі варункамі развіцця эканомікі і станаўлення дзяржаўнай незалежнасці краін рэгіёна. Гэта будзе спрыяць мажлівасці атрымліваць дадатковую нафту, захаваць рабочыя мейсцы, прадухіліць спад эканомікі.

Канферэнцыя звяртаецца да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Латвіі, Летувы й Украіны з прапановаю ў найбліжэйшы час правесці сумесную нараду паўнамоцных прадстаўнікоў і спецыялістаў, на якой разглядзець пытанні:

**(Працяг на 3-й стар.).**

---

## Ленін—бог. Хваробы перамог?

На днях наведаў 3-ю гарбальніцу Віцебска. У вестыбюлі яе цэнтральнага корпуса мяне сустрэла статуя Леніна. Правадыр камуністаў у поўны рост. Няўжо ён дапамагае вылечваць хворых? Ці мо, накшталт Кашпіроўскага, нейкай таямнічай сілай сунімае боль?

**А. КРЫВІЧ.**





 

# Зварот да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Летувы й Украіны

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

—пра будаўніцтва Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК) і даручыць адказным службам выканаць тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне;

—аб стварэнні Рэгіянальнага банка развіцця краінаў Усходняй Еўропы, што павінен узяць на сябе пытанні фінансавання праекта, які прапанаваны, і іншых магчымых праектаў і мерапрыемстваў, звязаных з эфектыўным выкарыстаннем энергарэсурсаў, развіццём энергетыкі, транспарту, сувязі і экалагічнай абароны ў Балтыйска-Чарнаморскім басейне.

Канферэнцыя адзначае, што яе правядзенне выклікана пошукам гаспадарчых рашэнняў краін БЧР і не скіраванае супроць трэціх дзяржаў, а рэалізацыя праекта БЧНК не зніжае мажлівасці пастаўкі нафты з Усхода краінам Усходняй ды Заходняй Еўропы.

Апошнім часам пытанні пастаўкі нафты ў БЧР сталі не толькі эканамічнаю праблемаю, але й прадметам гандлю ў палітыцы.

Ва ўмовах адсутнасці дастатковай паліўна-здабываючай базы нацыянальная прыналежнасць тэрміналаў, нафтаправодаў, прадуктаправодаў і нафтаперапрацоўчых заводаў з'яўляецца важным элементам гарантый незалежнасці і гаспадарчага развіцця. У звязку з гэтым канферэнцыя лічыць, што існуючы юрыдычны статус стратэгічных інжынерных камунікацый не павінен змяняцца. Нафтавыя магістралі ад Балтыкі да Чорнага мора ўзаемазвязаны, і было б мэтазгодна і перспектыўна правядзенне ў гэтых адносінах узгодненых дзеянняў і палітыкі краін рэгіёна.

Канферэнцыя звяртае ўвагу парламентаў і ўрадаў на агульнасць праблемаў і інтарэсаў краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна і заклікае іх да больш цеснага палітычнага й эканамічнага супрацоўніцтва.

# Сімвалічнае супадзенне

Трэцяя гадавіна прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі супала з бязглуздай кампаніяй вываду з абарачэння савецкіх грошай узору 1961—1991 і расійскіх 1992 гадоў выпуска. Дзеянні беларускага ўрада ў гэтай сувязі яскрава паказваюць, якой «незалежнасці» мы дабіліся за апошнія тры гады.

Складваецца ўражанне, што В. Кебіч працуе пад дыктоўку Цэнтральнага банка замежнай краіны. Спачатку адтуль нашаму ўраду робяць ультыматум, а потым без аніякага папярэджання адмяняюць грошы, якія свабодна ўжываліся ў суверэннай Беларусі ды іншых краінах г. зв. рублёвай зоны. Меры, адразу ж прынятыя ў адказ нашым урадам, можна расцаніць як вымушаныя. У той жа час акцыя Цэнтральнага банка Расіі, па сутнасці, не закранае інтарэсы жыхароў Украіны або Летувы: гэтыя краіны не ўваходзяць у названую зону.

Успамінаецца, як летась З. Пазьняк у выступленні па тэлебачанні з нагоды Дня незалежнасці сярод асноўных, на яго думку, прыкмет сапраўды незалежнай дзяржавы назваў наяўнасць нацыянальнай валюты, сваёй грашовай адзінкі. Меркавалася, што гэта будзе беларускі талер. За мінулы год справа па віне парламецкай большасці і ўрада, якія пастаянна азіраюцца на Маскву і чакаюць ад яе нейкай спагады і патурання, не зрушылася з месца. Прыгадваецца і пазіцыя Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча, які год назад заклікаў не спяшацца з увядзеннем уласнай валюты. На мой погляд, нерашучасць кіраўніка дзяржавы мае і будзе мець для ягонага аўтарытэту дрэнныя вынікі. Да таго ж ён павінен разумець сваю адказнасць перад беларускім народам у гэты пераломны момант.

Такім чынам, раптоўныя і бесцырымонныя дзеянні Цэнтрабанка Расіі (якія нават для расійскага міністра фінансаў былі нечаканыя), несумненна, б'юць па рэпутацыі ўрада і прэзідэнта Расіі (магчыма, так і было задумана), прымусілі прарасійскі ўрад Беларусі зрабіць чарговы крок па шляху ўвядзення нацыянальнай валюты. Апазіцыя БНФ гаворыць пра неабходнасць уласнай грашовай адзінкі ўжо некалькі гадоў. Што далей? Будзем чакаць новых прыдумак Масквы ці нарэшце займенм уласную галаву? Але на нейкія рашучыя дзеянні па ўмацаванню суверэнітэту Беларусі ад гэтага ўрада спадзявацца не даводзіцца. Выпадковае супадзенне Дня незалежнасці (устаноўлена гэтае свята той жа камуністычнай большасцю) з акцыяй расійскага Цэнтрабанка наўрад ці што скажа Кебічу і яго камандзе.

А супадзенне сімвалічнае.

**А. ЯСНЫ.**

# У нас выступаў у апошні раз!

У рэпартажы пра закрыццё «Славянскага базара» расійская «Известия» паведамілі, што вядомы беларускі спявак Я. Еўдакімаў нібыта пасварыўся з кампазітарам І. Лучанком і вырашыў пераехаць на пастаяннае жыхарства ў Маскву. Паводле звестак газеты, знакаміты кампазітар за крытыку ў свой адрас перакрыў «зорцы» каналы выступленняў на Беларусі.

А мо сапраўдная прычына ад'езду (калі ён сапраўды адбудзецца)—тое, што ў рэпертуары Еўдакімава, народнага (!) артыста Беларусі, не чуваць песень на беларускай мове, а канфлікт з Лучанком—толькі повад?

**Фантазёр.**

*Навіны Беласточчыны*

# Працяг візіта ў Беларусі

Днямі дарадчык прэзідэнта Польшчы Анджэй Закшэўскі і пасол Беларусі ў Варшаве Уладзімір Сянько пабывалі ў галоўных гарадах Беласточчыны, дзе сустракаліся з мясцовымі ўладамі, беларускай грамадскасцю. Міністр Закшэўскі ацаніў паездку як працяг візіта на Беларусь польскай афіцыйнай дэлегацыі на чале з Лехам Валэнсай. Прэзідэнт хоча чуць аб праблемах сваіх суграмадзянаў-беларусаў ад іх саміх, а не з вуснаў кіраўнікоў іншых дзяржаў.

**Ю. С.**

# Жнівень 91-га прынёс збаўленне тысячам віцяблян

Прыхільнікі ГКЧП могуць не турбавацца. Гаворка пойдзе аб гарадской стаматалагічнай паліклініцы Віцебска, якая адчынілася ў жніўні памятнага 1991 года. А калі дакладней—аб цудоўных жанчынах, што там працуюць.

Уражанне залежыць ад параўнання. Многія памятаюць колькі трэба было сапсаваць нерваў, настрою і часу, каб вылечыць зубы 3—4 гады таму! Напрыклад, у стаматалагічную паліклініку, што размешчана на Маскоўскім праспекце, чаргу неабходна было займаць з ночы. І то не заўсёды хапала талонаў.

Затое зараз можна ў любы дзень патрапіць да «зубніка» ў новую паліклініку (Горкага, 34). Дастаткова патэлефанаваць у рэгістратуру і заўсёды ветлівая Галіна Парамонаўна Новік пакіне талончык на зручны для пацыента час.

Так здарылася, што «пашанцавала» пабываць у многіх кабінетах гэтай медустановы—запусціў зубы. І магу засведчыць, што нідзе не сустракаў раней такіх спакойных, працавітых стаматолагаў, як тут.

Я быў замілаваны работай Ганны Міхайлаўны Іткінай, Клаўдзіі Канстанцінаўны Зянько. Майстэрства Аксаны Яўгенаўны Ліпінскай кранае не толькі зубы, а й сэрца. Цудоўна працуюць і Тамара Валянцінаўна Серабракова і Марыя Карпаўна Юрына...

За дзесяткі наведванняў паліклінікі я ні разу не пачуў крыку хворага ў зубным крэсле ці павышанага голаса лекара.

Вельмі хочацца праз вашу газету падзякаваць усяму калектыву паліклінікі за выдатную працу й абслугоўванне. Жадаю яму шчасця, здароўя і новых поспехаў у працы.

**Анатоль КАРЧЭЎСКІ.**

# З архіваў «Бухгалтэрыя» смерці



*Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.*

Фотаздымак **А. ЛАКОТКІ.**

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» №№ 17—22. Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахоплівае перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

## Тетрадь № 8

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **19.6.42** | |
| 1 | | 2689 | 14 | Гарде Петр | 4 пол. уч. |
| | 1 | 2681 | 14 | Багданчик Владимир | 4 пол. уч. |
| | 1 | 1115 | 88 | Ширинская Елена | СД, штрафные работы |
| | 1 | 1933 | 86 | Ушаков Николай | —»— |
| | 1 | 2150 | 91 | Зиленский Влад. | —»— |
| | 1 | 1366 | 99 | Кузнегун Стефан | —»— |
| | 1 | 2661 | 101 | Ильин Иван | —»— |
| | 1 | 2668 | 101 | Финкевич Петр | —»— |
| | 1 | 2660 | 101 | Личковский Казимир | —»— |
| | 1 | 1653 | 96 | Фрекубович Езеф | в больницу |
| | 1 | 1297 | 96 | Колушенин Алекс. | —»— |
| 1 | | 2691 | 14 | Высоцкий Бронислав | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2692 | 4 | Павлович Езеф | —»— |
| | | | | **30.6.42** | |
| | 1 | 1959 | 25 | Ноцкевич Франц | суд |
| 1 | | 2693 | — | Стоганова Мария | СД |
| 1 | | 2694 | — | Лейкина Матрёна | СД |
| 1 | | 2695 | — | Путро Езеф | СД |
| 1 | | 2696 | — | Твердохлеб Александр | СД |
| | 1 | 769 | 44 | Сюльшин Никита | через суд |
| | 1 | 770 | 44 | Клигун Моисей | через суд |
| 1 | | 2697 | 15 | Моффе Александр | |
| 1 | | 2698 | 12 | Кагилевич Ехая | |
| 1 | | 2699 | 12 | Ирайшкл Риза | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2700 | 12 | Фишкина Ида | 3 пол. уч. |
| | | | | **1.7.42** | |
| | 1 | 39 | 24 | Грудинский Леонид | повешен |
| | 1 | 2284 | 44 | Заянчковский Евгений | |
| | 1 | 2412 | 32 | Кубшайло Александр | СД |
| | 1 | 1767 | 91 | Лучийский Иван | СД штрафные работы |
| | 1 | 1768 | 91 | Радгуткевич Виктор | —»— |
| | 1 | 2339 | 21 | Малашов П. | —»— |
| | 1 | 2336 | 21 | Шунейко Ольгир | —»— |
| | 1 | 773 | 28 | Феромин Владимир | нем. суд. |
| 1 | | 2701 | 77 | Яценко Виктор | из больницы |
| 1 | | 2702 | 15 | Анисимов Илья | СД |
| 1 | | 2703 | 12 | Гаврилова Виктория | СД |
| 1 | | 2704 | 12 | Ганцевич Таиса | СД |
| | | | | **2.7.42** | |
| | 1 | 1979 | 55 | Федорович Виктор | СД, штрафные работы |
| | 1 | 1980 | 16 | Треснин Андрей | —»— |
| | 1 | 1981 | 17 | Кармон Михаил | —»— |
| | 1 | 1982 | 18 | Кармон Василий | —»— |
| | 1 | 1983 | 37 | Кармон Иван | —»— |
| | 1 | 1984 | 19 | Федорович Владимир | —»— |
| | 1 | 1985 | 21 | Мурович Иван | —»— |
| | 1 | 1986 | 55 | Федорович Адам | —»— |
| | 1 | 1987 | 22 | Козовский Казимир | СД |
| | 1 | 1988 | 23 | Корман Езеф | СД |
| | 1 | 1989 | 85 | Кормон Василий | СД |
| | 1 | 1991 | 38 | Кормон Филипп | СД |
| | 1 | 1992 | 55 | Моргун Александр | СД |
| | 1 | 1993 | 55 | Моргун Иосиф | СД |

(Працяг у наступным нумары).

# Сумнае рэха фестывалю

Для многіх гэтыя дажлівыя віцебскія дні памяць зберажэ ярчэйшымі за дні спякоты й сонца. Асабліва цяпер, калі ўсё мінула і адгучала; і навальніцы, і патокі музыкі ды спеваў, калі адвіравала радасць свята і вулкі горада напоўніліся лёгкім сумам будзённасці.

Канец, гавораць, справе вянец. І вось, як повязь з гэтай народнай мудрасцю, успамінаецца апошні дзень, апошні фестывальны канцэрт на форуме, дзе, на здзіўленне, не хапала празрыста звонкіх галасоў маладых гаспадароў імпрэзы—беларускіх артыстаў, якія так хораша, неяк па-асабліваму высакародна і натхнёна аздобілі свята нашай незалежнасці, па-майстэрску складзенай праграмай нацыянальнага Дня. Як каму, а мне ён падаўся ці не самым яркім за іншыя дні.

Эстрада наша квітнее—гэта ўжо бясспрэчна. І калі ў эпічны размах мелодый «Песняроў», патрыятычна замілаваны песенны роздум Анатоля Ярмоленкі ў гірляндзе натхнёнай моладзі з'яўляецца, нарэшце, Ліка Ялінская, мы радасна заміраем ад усведамлення здзейсненага—у нас ёсць свая багіня, якая ў сузор'і прывычных ужо «зорак» сумежных зямель, заззяла чароўным святлом ужо незгаснае для нас падзеі.

У заключным канцэрце Лікі мы не дачакаліся... Не было Ярмоленкі і яго студыі, не было Іны Афанасьевай, не было Валерыя Дайнекі... Што гэта? Выпадковасць ці вымушаная «рэвізія»?

Дарэчы, абранае шаноўным журы на чале са спадарыняй Бабкінай трыо пераможцаў, адораных «яйкамі» рознай ступені каштоўнасці, неяк не ўразіла (калі судзіць па «голасу» залы—не мяне аднаго). Здалося нават, што выбралі самых не-самых...

Гаспадар жа ў сваім доме ёсць гаспадар. Але часам, назіраючы за трыо вядучых, з сумам успамінаў недалёкае мінулае (памятаеце «старэйшых ды «малодшых» браткоў). Пры бясконцым падкрэсліванні дзіўнай зразумеласці трох моваў, «малодшыя» сёстры часам дружна пераскоквалі на расейскую, а праспяваўшы беларускую песню, той-сёй з выканаўцаў тут жа крычаў «спасибо» (і гэта сваім!).

Дык дзе ж падзелася Ліка і іншыя нашыя «зоркі» ў апошні дзень? Можа яшчэ пачуем...





І нарэшце, аб нас, гледачах. Мне асабіста пашчасціла, як той казаў, «зблізку» ўбачыць і пачуць Тамрыко Гвердцэтэлі. Які падарунак!

Пры незвычайнай прыгажосці і высакароднасці гэтая жанчына валодае дарам рэдкае сцэнічнае гармоніі, галасам надзвычайнага багацця, фарбаў і дынамізму.

Ацаніл? Не. Куды болей авацый «ловіць» з рук нашага шчодрага гледача які-небудзь зух, у якога ўсё «мастацтва» ў ...бнай разбэшчанасці ды самаўпэўненай дзёрзкасці блазна. Не эстрада, а болей цырк, здаецца, часам даспадобы, нашай публіцы.

Любім мы і нестарэючых (дакладней «вечно молодых») суперзорак савецкага часу, якія адорваюць нас 10-гадовай даўнасці фанаграмамі, калі ўрачыста прысутнічаюць «жыўцом» пры сваёй «вечной молодости». Тут на авацыі мы шчодрыя.

Давайце ж вучыцца па-сапраўднаму шанаваць сапраўды дастойнае, ды паважаць сябе.

**Алесь МЕМУС.**

**На здымках:** Ліка і Тамрыко.

(фото аўтара).

## Вясёлы глобус

У пяцігадовага Томаса з'явілася маленькая сястрычка. У двары дома аднагодка пытае яго:

—Ці можа яна бегаць?

Томас:

—Не, бегаць не можа, але ногі ўжо ёсць.

* * *

—Татка, ты можаш мне сказаць, як дзейнічае мозг?

—Пакінь мяне ў спакоі, у мяне галава забіта нечым іншым.



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку [Віцкамбанк]. Код [МФО] банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 3.08.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 5 руб.**

## Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня

### Серада, 4 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.55 і 21.45.** «Дзяжурная аптэка».
**13.40.** «Тры таполі на Плюшчысе».
**15.15.** «Гонкі па вертыкалі». 3-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

**8.40 і 18.00.** «Проста Марыя».
**11.20.** «Мэры Попінс, да пабачэння!» 2-я серыя.
**12.35.** «Два капітаны». 5-я серыя.
**20.40.** «Дым». 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.10.** «Чужыя тут не ходзяць».
**19.25.** «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.10.** «Мая другая мама».
**10.00.** «Бяда».
**14.40.** «Пераступіць мяжу». 1-я серыя.

### Чацвер, 5 жніўня

**Беларускае тлебачанне**

**13.40 і 15.35.** «Каля возера». 1-я і 2-я серыі.
**21.45.** «Дзяжурная аптэка».

**Канал «Астанкіна»**

**8.50 і 17.55.** «Проста Марыя».
**12.20.** «Два капітаны». 6-я серыя.
**21.10.** «Аляксандр Неўскі».

**Канал «Расія»**

**9.45 і 19.25.** «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**7.50.** «На пачатку слаўных спраў».
**14.40.** «Пераступіць мяжу». 2-я серыя.
**20.45.** «Мая другая мама».
**23.30.** «Дамскае танга».

### Пятніца, 6 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.50.** «Дзяжурная аптэка».
**13.40 і 15.25.** «Клоун». 1-я і 2-я серыі.
**22.05.** «Апошні дубль». (Японія).

**Канал «Астанкіна»**

**8.55.** «Утрымайцеся ў сядле».
**12.50.** «Дробязі жыцця». 7-я і 8-я серыі.
**20.55.** «Суіні».

**Канал «Расія»**

**11.00.** Санта-Барбара».
**16.55.** «Хлопчык, які гаварыў з барсуком». 1-я серыя.
**19.25.** «Адзінокім прадастаўляецца інтэрнат».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.00.** «Мая другая мама».
**11.55.** «Трасцінка на ветры».
**15.45.** «Дзяўчынка і кракадзіл».
**23.00.** «Сакрэтны агент» (Вялікабрытанія).

### Субота, 7 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**11.15.** «Апошні дубль» (Японія).
**21.50.** «Апошні раз я бачыў Парыж».

**Канал «Астанкіна»**

**18.50.** «Рыцары Х'юстана».
**20.40.** «Блакітнае і шэрае».

**Канал «Расія»**

**11.00.** «Зусім прапашчы».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.35.** «Сакрэтны агент» (Вялікабрытанія).
**10.55.** «Мусаргскі».
**20.40.** «Мая другая мама».
**22.45.** «Год цяляці».

### Нядзеля, 8 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.25.** «Дзяжурная аптэка».
**17.05.** «Кешка і спецназ».
**17.15.** «Джэнтльмены ўдачы».
**21.10.** «Пякельны цягнік» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

**18.45.** «Дыназаўры XX стагоддзя».

**Канал «Расія»**

**10.55.** «Гары, гары, мая зорка».
**19.25.** «Выкраданне мільёна».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**7.15.** «Сярэбраная пража Караліны».
**8.25.** «Год цяляці».
**16.50.** «Порах».

## «НАРОДНАЯ...»—ЛІДЭР

Мінула падпісная кампанія. У першыя дні другога паўгоддзя сфарміраваліся сярэднія наклады вядучых газет краіны.

Найбольшы тыраж—за паўмільёна—выдае «Народная газета». На другое мейсца адступіла «Советская Белоруссия» (460 тысяч). Нягледзячы на падзенне накладу на сорак тысяч (да 170000 экз.) «Звязда» застаецца самай чытэльнай беларускамоўнай газетай.

На 60% вырасла колькасць чытачоў «Чырвонай змены» (32 тыс.). 90 тысяч экземпляраў —такі паказчык мае цяпер «Знамя юности». «Белорусская нива» выпускае 102 тысячы паасобнікаў.

Без зменаў захаваліся наклады тыднёвікаў «Літаратура і Мастацтва» (15 тыс.), «Культура» (11 тыс.), «Голас Радзімы» (5 тыс.).

Крыху знізіўся тыраж «Нашага слова» (7 тыс.). «Падраслі» (і даволі моцна) «Свабода» й «Наша Ніва» (па 20 тыс. экз.).

**К. СТУСЬ.**